ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 14 (2593)
ПЯТНІЦА
7
красавіка 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## ЦІКАВАЯ, КАРЫСНАЯ РАЗМОВА

«Адбылася цікавая, карысная размова аб тым, як установы культуры выконваюць рашэнні XXIV з'езда КПСС», — так характарызаваў у заключным слове міністр культуры БССР Ю. Міхневіч рэспубліканскую нараду работнікаў культуры, што 3—4 красавіка праходзіла ў Мінску.

Аб рабоце ўстаноў культуры рэспублікі па выкананні рашэнняў XXIV з'езда КПСС і задачах у сувязі з падрыхтоўкай да 50-годдзя ўтварэння Саюза ССР гаварылі загадчык Пастаўскага раённага аддзела культуры Г. Завадскі, начальнік упраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкома А. Лыскоў, загадчыца Рагачоўскага раённага аддзела культуры, заслужаны дзеяч культуры БССР Г. Іванова, сакратар ЦК ЛКСМБ А. Сакалоўскі, загадчыца Каліноўскай сельскай бібліятэкі Бялыніцкага раёна В. Блізнякова, старшыня праўлення Саюза кампазітараў Беларусі, народны артыст СССР Р. Шырма, дырэктар Асіповіцкага раённага дома культуры Н. Жарняк, дырэктар Брэсцкага драматычнага тэатра імя ЛКСМБ, заслужаны дзеяч культуры БССР Л. Валчэцкі, загадчык культурна-масавага аддзела Беларускага савета прафсаюзаў Р. Козін, дырэктар Абідавіцкага сельскага дома культуры Быхаўскага раёна В. Шусцікаў, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага народнага хору БССР, народны артыст СССР Г. Цітовіч, старшыня Верцялішкаўскага сельсавета Гродзенскага раёна Д. Рамейка, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР мастак М. Савіцкі, дырэктар Брэсцкага музычнага вучылішча, заслужаны дзеяч культуры БССР К. Манучараў, загадчыца Мінскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя Янкі Купалы А. Кастылёва, старшыня калгаса імя Гастэлы Мінскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы В. Шыманскі, дырэктар Беларускай дзяржаўнай філармоніі Г. Загародні, дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны П. Лавецкі, дырэктар рэспубліканскага інстытута павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры Ф. Жыгалаў, старшы выкладчык Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута Б. Вішкароў.

З прамовамі на нарадзе выступілі сакратар ЦК КПБ А. Кузьмін, намеснік міністра культуры СССР Г. Уладыкін.

У рабоце нарады прынялі ўдзел намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Сняжкова, інструктар аддзела прапаганды ЦК КПСС А. Кандрашына, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. Марцалеў, начальнік упраўлення культасветустаноў Міністэрства культуры СССР Л. Данілава, намеснік старшыні Дзяржплана БССР Ф. Іваноў, сакратар Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў Л. Барабанава.



Гэтыя здымкі зроблены на Рэспубліканскай нарадзе работнікаў культуры: мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага народнага хору БССР, народны артыст Саюза ССР Генадзь Цітовіч гутарыць з загадчыкамі раённых аддзелаў культуры Валянцінай Барысавай (Орша), Алінай Пацута (Ушачы), Раісай Агеевай (Лёзна), Галінай Сакаловай (дырэктар Віцебскага абласнога дома народнай творчасці) і Вікторыяй Маркевіч (Чашнікі) (здымак уверсе); на другім здымку вы бачыце народнага артыста БССР Мікалая Яроменку і заслужанага артыста БССР Віктара Вуячыча.

Фота Ул. КРУКА.

Даклад міністра культуры Ю. Міхневіча і падрабязную справаздачу аб нарадзе чытайце ў наступным нумары.

# МАГУТНАГА ДРЭВА

меннікам Э. Самуйлёнкам рамана «Будучыня» на матэрыяле з жыцця грузінскага народа), так і ў шматлікіх формах братніх узаемасувязей культур, літаратуры, мастацтва.

Гастролі нашых тэатраў і музычных калектываў за межамі Беларусі, дэкады і дні беларускай літаратуры і мастацтва ў РСФСР, Літве, Узбекістане, Таджыкістане і іншых рэспубліках паказалі, што кожная сацыялістычная нацыянальная культура, заснаваная на прынцыпах партыйнасці і народнасці, блізкая і зразумелая ўсім савецкім народам. І гэта знамянальна: інтэнсіўны абмен духоўнымі каштоўнасцямі паміж народамі-братамі, плённы ўзаемаўплыў іх культур з усёй пераканаўчасцю пацвярджаюць геніяльнае прадбачанне У. І. Леніна аб тым, што сацыялізм гіганцкімі тэмпамі паскарае працэс зблiжэння нацый.

За апошнія гады савецкая шматнацыянальная літаратура, тэатр, кіно, музыка, выяўленчае мастацтва далі народу многа новых твораў высокага ідэйнага і мастацкага гучання, якія праўдзіва, з пазіцый сацыялістычнага рэалізму, адлюстроўваюць усе значныя сацыяльныя з'явы і працэсы ў жыцці народа, яго гераічнай гісторыі. Побач з творчай інтэлігенцыяй усіх савецкіх рэспублік дзеячы літаратуры і мастацтва Беларусі ўносяць усё большы і большы ўклад у скарбніцу нашай агульнай камуністычнай культуры.

Савецкім людзям добра вядомы прасякнутыя глыбокім пафасам грамадзянскасці, савецкага патрыятызму і інтэрнацыяналізму паэтычныя творы П. Броўкі, М. Танка, А. Куляшова, П. Панчанкі, раманы І. Шамякіна «Сэрца на далоні» і «Снежныя зімы», І. Мележа «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы», І. Навуменкі «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах» і зусім нядаўнія—раман І. Пташнікава «Мсціжы», аповесць В. Быкава «Абеліск» і многія іншыя ўзоры творчасці беларускіх паэтаў і празаікаў.

Беларуская музыка, увабраўшы ў сябе лепшыя традыцыі айчыннай і сусветнай класікі і асабліва рускай музычнай культуры, абапіраючыся на народную творчасць, дасягнула сапраўднага росквіту, набыла прызнанне і ў рэспубліцы, і за яе межамі. У канцэртных залах краіны гучаць сімфанічныя і інструментальныя творы Я. Цікоцкага, М. Аладава, А. Багатырова, Я. Глебава, Ю. Семянякі, Д. Смольскага, Г. Вагнера, Л. Абеліёвіча, С. Картэса. На сцэнах нашага і некаторых іншых оперных тэатраў з поспехам ідуць спектаклі па творах беларускіх кампазітараў: оперы «Алеся» Я. Цікоцкага, «Зорка Венера» Ю. Семянякі, балеты «Альперы», Б. Сцяпанава «Я, Францыск Скарына» і «Бацька», І. Дабралюбава «Іван Макаравіч», А. Спешнева «Масква—Генуя», Л. Голуба «Паланез Агінскага», Ю. Дубровіна «Свой хлопец», тэлевізійныя шматсерыйныя фільмы В. Чацверыкова «Руіны страляюць...», Н. Ардашнікава і А. Гутковіча «Уся каралеўская раць» і іншыя. Разам з тым трэба шчыра прызнаць, што далёка не ўсе са створаных за апошні час «Беларусьфільмам» карцін можна аднесці да значных твораў. Так, сярод фільмаў аб партызанскай барацьбе ў гады Вялікай Айчыннай вайны, як адзначалася на XXVII з'ездзе Кампартыі Беларусі, ёсць і такія творы, у якіх распрацоўваюцца далёка не самыя важныя аспекты гэтай тэмы.

У творчасці нашых майстроў пэндзля і разца, як і ў іншых відах мастацтва, цэнтральнае месца займае вобраз савецкага чалавека — будаўніка камунізма, творцы, патрыёта-інтэрнацыяналіста. Многія жывапісныя палотны, графічныя лісты і скульптурныя творы А. Бембеля, В. Цвірко, З. Азгура, М. Савіцкага, В. Грамыкі, Г. Паплаўскага, А. Анікейчыка і раду іншых майстроў атрымалі высокую ацэнку грамадскасці.

Створаныя ў апошнія гады мемарыялы «Брэсцкая крэпасць-герой», «Хатынь», «Курган славы», якія ўвекавечваюць бессмяротны подзвіг савецкага чалавека, упісалі яркія старонкі ў манументальны летапіс эпохі, сталі сімвалам братняй дружбы савецкіх народаў, што вытрымала самыя суровыя выпрабаванні.

У нашай краіне роля і месца мастака ў вялікай справе культурнага будаўніцтва вызначаюцца перш за ўсё адданасцю яго ідэалам камунізма, адоранасцю, а не нацыянальнай прыналежнасцю. Характэрна, што творчыя саюзы Беларусі аб'ядноўваюць у сваіх радах прадстаўнікоў многіх нацыянальнасцей Савецкага Саюза. Напрыклад, у павільёнах кінастудыі, у мастацкіх майстэрнях і на падпійская балада» і «Выбранніца» Я. Глебава, «Пасля балю» Г. Вагнера і іншыя. Побач з імі на беларускай試 опернай сцэне ставяцца творы рускай, савецкай і зарубежнай класікі.

Прыкметныя тэмпы росту беларускай кінематаграфіі, здабыткам якой сталі такія фільмы як «Гадзіннік спыніўся апоўначы», «Дзяўчынка шукае бацьку», «Канстанцін Заслонаў» і іншыя, што ўвайшлі ў савецкую кінакласіку. Зараз у рэспубліцы штогод выпускаецца 5—6 мастацкіх фільмаў і больш як 40 дакументальных. Прызнанне гледачоў здабылі многія фільмы апошніх год. Гэта творы нашых рэжысёраў У. Корш-Сабліна «Крушэнне ім-мостках сцэны поруч з беларусамі працуюць мастакі, кампазітары, кінематаграфісты, рэжысёры і артысты многіх нацыянальнасцей. Развіваючы беларускае савецкае мастацтва, яны сваёй творчасцю разам з тым узбагачаюць яго фарбамі шчодрай палітры мастацтва сваіх народаў.

Для савецкага мастака разуменне гэтай заканамернасці з'яўляецца сёння абавязковай умовай поспеху творчасці, далейшага ўмацавання сваіх класавых, інтэрнацыянальных пазіцый. На неабходнасць паглыбленага навуковага даследавання працэсу ўзаемаўзбагачэння і збліжэння культур сацыялістычных нацый прама ўказана ў прынятай нядаўна Пастанове ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы».

Яднанне працоўных розных нацыянальнасцей нашай краіны на класавай аснове пачалося яшчэ ў дарэвалюцыйны перыяд, хоць гэтаму шалёна супраціўлялася царскае самадзяржаўе. Асновай такога згуртавання было адзінства класавых інтарэсаў і ідэалаў рабочых розных нацыянальнасцей, якое цэментавала партыя бальшавікоў. Гэтаму садзейнічала і перадавая культура вялікага рускага народа. Вітаючы гэту прагрэсіўную з'яву, выдатны беларускі паэт М. Багдановіч пісаў: «Яе пячатка (рускай культуры.—**А. К.**) ляжыць на духоўнай творчасці любога народа Расіі, яна з'яўляецца для іх агульнай глебай, збліжаючы змест іх культур, іх ідэйных і літаратурных плыняў».

Перад Багдановічам стаяў тады прыклад творчай дружбы Я. Купалы і Я. Коласа з заснавальнікам рускай пралетарскай літаратуры А. М. Горкім, які ў ліку першых звярнуў увагу рускай грамадскасці на творчасць Купалы і Коласа і на сам факт існавання беларускай літаратуры, пераклаўшы на рускую мову верш Я. Купалы «А хто там ідзе?».

Гісторыя спрыяльнага ўплыву дзеячоў рускай і савецкай культуры на беларускую надзвычай багатая. У пачатку дваццатых гадоў рускі рэжысёр, акцёр і драматург Е. А. Міровіч звязаў свой лёс з першым нацыянальным тэатрам Савецкай Беларусі, узначаліў калектыў цяпер праслаўленага Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Імя Еўсцігнея Міровіча ўвайшло ў гісторыю беларускага тэатра, як імя аднаго з яго заснавальнікаў. У тыя ж гады ў Маскве, у Дзяржаўным інстытуце тэатральнага мастацтва, вучыліся акцёрскаму майстэрству выхаванцы беларускай студыі, якія сталі заснавальнікамі другога нацыянальнага тэатра Беларусі, што носіць зараз імя Я. Коласа.

А колькі іншых майстроў мастацтва, прадстаўнікоў розных народаў нашай шматнацыянальнай Радзімы, аддалі талент і напал сваіх сэрцаў мастацтву Савецкай Беларусі! Работнікі кіно Масквы і Ленінграда прыйшлі на дапамогу маладым беларускім кінематаграфістам, закладвалі разам з імі асновы беларускага кінамастацтва. Вядомыя музыканты і педагогі Масквы, Ленінграда, Кіева аказалі дапамогу ў стварэнні Белдзяржкансерваторыі і Тэатра оперы і балета.

Толькі дзякуючы братняй дапамозе рускага і іншых савецкіх народаў у цяжкія гады Вялікай Айчыннай вайны, калі беларуская савецкая культура панесла беззваротныя страты, наш народ захаваў ад разрабавання і знішчэння значную частку культурнага здабытку рэспублікі. Ужо ў 1941 годзе ў Томску аднавіў сваю работу першы Беларускі дзяржаўны тэатр, у 1942 годзе ў Горкім — Беларускі дзяржаўны тэатр оперы і балета, у Новасібірску, Арэхава-Зуеве, Каўрове працягвалі работу іншыя беларускія тэатры. Рэспублікі Сярэдняй Азіі дапамагалі аднавіць дзейнасць беларускіх творчых калектываў, з іх гасціннага дома адпраўляліся на перадавую франтавыя брыгады беларускіх артыстаў. На зямлі Татарыі пісаў свае пранізаныя болем і гневам радкі народны паэт Беларусі Янка Купала. Узбекістан даў прытулак і хлеб Якубу Коласу. Параненыя і дзеці, вывезеныя з лясоў партызанскай рэспублікі, знайшлі свой дом і мацярынскія клопаты на зямлі Грузіі, Туркменіі, Казахстана...

І ў пасляваенныя гады ўсе братнія рэспублікі аказвалі беларускаму народу велізарную дапамогу як у аднаўленні разбуранай вайной народнай гаспадаркі, так і ў адраджэнні нацыянальнай культуры.

Паўвекавым вопытам даказана, што Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік з'яўляецца той жыццяздольнай формай дзяржаўнага ладу, якая забяспечвае гарманічнае спалучэнне інтарэсаў усяго грамадства з інтарэсамі кожнай нацыі, дзе ўзаемаўплыў, збліжэнне і ўзаемаўзбагачэнне сацыялістычных нацый і народнасцей зрабіліся неабходнай умовай плённага духоўнага жыцця грамадства ў цэлым і кожнай нацыі паасобку.

Уся гісторыя станаўлення і развіцця культуры і мастацтва нашай рэспублікі — гэта пераканаўчы прыклад сілы і жыццёвасці ленінскай нацыянальнай палітыкі, праяўлення братняй дружбы савецкіх народаў.

Здаровая стваральная атмасфера жыцця сацыялістычнага грамадства, ва ўмовах якой братнія рэспублікі Савецкага Саюза рыхтуюцца да 50-годдзя ўтварэння СССР, адзінства ўсіх нацый і народнасцей нашай краіны, іх згуртаванасць вакол Камуністычнай партыі, вернасць прынцыпам інтэрнацыяналізму і дружбы народаў натхняюць савецкіх мастакоў і ў тым ліку майстроў мастацтваў Беларусі на новыя творы, якія дастойна адлюстроўваюць сённяшні дзень і грандыёзныя перспектывы нашай шматнацыянальнай Радзімы.

**«Советская культура»**
**ад 1 красавіка 1972 г.**

---

ботнікаў з будучымі металістамі, будаўнікамі, чыгуначнікамі—навучэнцамі гоафтэхвучылішчаў.

Шмат робіць секцыя лекцыйнай прапаганды і нагляднай агітацыі. Яна наладжвае лекцыі па актуальных пытаннях мастацтва.

У гэтым годзе ў планах секцыі—гутаркі на такія тэмы, як «Тэатры рэспублікі ў юбілейным годзе», «Оперныя тэатры краіны», «Мастацтва братніх рэспублік» і іншыя.

Работнікі гэтай жа секцыі сочаць за тым, каб не пуставала выставачная зала Дома мастацтваў.

У сакавіку тут была наладжана экспазіцыя работ мінскіх майстрых і аматараў-жывапісцаў. Нацюрморты, пейзажы, партрэты, а таксама карункі, вырабы з саломкі, вышыўка дэманстраваліся тут.

У час «Бранцаўскіх чытанняў» наведвальнікі пазнаёмяцца з фотавыстаўкай, прысвечанай тэатру юнага гледача і тэатру лялек рэспублікі.

У канцы красавіка, як заўсёды, адкрыецца традыцыйная выстаўка, прысвечаная Ільічу. «Вобраз Леніна ў тэатральным мастацтве» — так будзе яна называцца.

Вось такія ў агульных рысах нашыя планы на сёлетні год.



Да знамянальнага юбілею тэатры краіны ставяць п'есы драматургаў братніх рэспублік СССР. На многіх сцэнах ідуць творы беларускіх пісьменнікаў — А. Макаёнка, А. Маўзона, А. Дзяленд зіка, А. Махнача і іншых. Вось адно фота з пошты «ЛіМа». Яго прыслалі з горада Алмецьеўска Татарскай АССР. Дзяржаўны драматычны татарскі тэатр там паказвае з поспехам драму «Толькі адно жыццё» А. Маўзона.

На здымку — артыстка Люцыя Абдулаева ў ролі Ніны і заслужаны артыст Татарскай АССР Ахмет Галіекбараў у ролі Скарапада.

Фота Г. ХУСАІНАВА.

## ЦЫМБАЛЫ ЗНОЎ У ДАРОЗЕ

У вялікую гастрольную паездку па рэспубліках Сярэдняй Азіі, прысвечаную 50-годдзю ўтварэння СССР, выехаў Дзяржаўны народны аркестр БССР. Яго творчая справаздача перад туркменскімі слухачамі пачынаецца сёння ў Краснаводску. Беларускія артысты за два месяцы дадуць каля сарака канцэртаў у Душанбэ, Ташкенце, Алма-Аце, Фрунзе. Цымбалы будуць гучаць таксама ў Самаркандзе, Бухары, Тэрмезе, Наваі, Небіт-Дагу, плануюцца даць дзесяць канцэртаў для працаўнікоў Кустанайскай і Цалінаградскай абласцей.

У гастрольным рэпертуары аркестра — музычныя творы многіх народаў нашай шматнацыянальнай Радзімы. У тым ліку — «Сказ пра Беларусь» І. Жыновіча, «Андантэ» з 2-й сімфоніі Р. Пукста, лезгінка з оперы «Даісі» З. Паліяшвілі, рускі танец з балета «Гаянэ» А. Хачатурана, азербайджанская народная мелодыя «Нацы домікі побач», казахскі народны танец «Кюй» у апрацоўцы для аркестра, руская, украінская, узбекская музыка.

Разам з аркестрам будуць выступаць салісты Беларускай дзяржаўнай філармоніі Ганна Буцько і Уладзімір Вепрык.

**Ул. ВАЛОДЗІН.**

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

За плённую літаратурную дзейнасць і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў пісьменніка Прокшу Леаніда Януаравіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

# МАЛЫМ ЧЫТАЧАМ — ВЯЛІКУЮ ЛІТАРАТУРУ

## З УСЕСАЮЗНАГА СІМПОЗІУМА «ПРАБЛЕМЫ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАГА ВЫХАВАННЯ Ў ДЗІЦЯЧАЙ ЛІТАРАТУРЫ»

*Усесаюзны тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі.. Шматлікія сустрэчы, цікавыя выступленні перад самай цудоўнай чытацкай аўдыторыяй — дзецьмі... У школах і бібліятэках, у Палацах культуры, клубах і кінатэатрах нашай рэспублікі ў гэтыя па-сапраўднаму святочныя дні гучала сяброўскае шчырае слова дзіцячых пісьменнікаў розных народаў краіны, ішла карысная размова аб кнігах для дзяцей, аб любімых героях, з якіх бяруць прыклад, вучацца жыць юныя чытачы. Вялікі вечар дружбы з удзелам дэлегацый дзяцей братніх рэспублік адбыўся ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі.*

*Заключным акордам гэтага добра падрыхтаванага і праведзенага Тыдня дзіцячай і юнацкай кнігі можна з поўным правам лічыць сімпозіум, прысвечаны разгляду праблем інтэрнацыянальнага выхавання ў дзіцячай літаратуры. Тая цікавая і сур'ёзная размова, якая адбылася на сімпозіуме, была прасякнута адным шчырым імкненнем, адным вялікім клопатам: дапамагчы нашай Камуністычнай партыі ў выхаванні сапраўдных будаўнікоў камунізма, сапраўдных інтэрнацыяналістаў. Задача — не лёгкая, але пачэсная, якую яшчэ лепш павінна выпрацаваць пісьменніцкая арганізацыя краіны, кожны пісьменнік.*

*Менавіта аб гэтым гаварыў у сваім уступным слове на сімпозіуме Васіль Вітка. Ён падкрэсліў, што Пастанова ЦК КПСС «Аб падрыхтоўцы да 50-годдзя ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік» вызначае нашу галоўную задачу па інтэрнацыянальным выхаванні на многія гады. Пачуццё вялікай дружбы, інтэрнацыянальнага адзінства савецкіх людзей ляжыць у аснове творчасці савецкага пісьменніка. Усесаюзны тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі яскрава пацвердзіў гэтую адметную якасць шматнацыянальнай літаратуры Краіны Саветаў, падсумаваў дасягненні, даў творчы зарад для напісання новых высокамастацкіх і высокаідэйных твораў для дзяцей.*

*В. Вітка выказаў некалькі цікавых думак і прапаноў. У прыватнасці, ён заклікаў пісьменнікаў супрацоўнічаць з педагогамі ў стварэнні падручнікаў па роднай літаратуры. Такія станоўчыя прыклады ўжо ёсць: аўтарамі малдаўскага, беларускага буквароў з'яўляюцца пісьменнікі, беларускі крытык і літаратуразнаўца Р. Шкраба склаў падручнік па гісторыі беларускай літаратуры для дзесятага класа і г. д. Праца гэта складаная, але вельмі неабходная. Трэба вельмі ўмела падбіраць у якасці прыкладаў апавяданні, вершы, у якіх бы давалася яскравая карціна дружбы народаў, якімі можна было б дапамагчы школьніку ўсвядоміць, што такое Радзіма для савецкага чалавека, якія б выхоўвалі пачуцці інтэрнацыяналізму.*

*Для гэтай жа мэты, на думку В. Віткі, нядрэнна было б мець, акрамя часопіса «Детская литература», яшчэ адзін мастацкі агульнасаюзны часопіс — у ім друкавалася б усё тое лепшае ў галіне дзіцячай літаратуры, што з'яўляецца штогод у кожнай братняй рэспубліцы.*

*Цікавымі і павучальнымі былі на сімпозіуме паведамленне Е. Лось аб праблеме інтэрнацыянальнага выхавання ў беларускай дзіцячай літаратуры, выступленні гасцей і гаспадароў. Скарочаную стэнаграму гэтых выступленняў мы прапануем увазе нашых чытачоў.*



У час пасяджэння сімпозіума ў клубе Саюза пісьменнікаў БССР.

Фота Ул. КРУКА.

## НАШЫ ДАСЯГНЕННІ І НАШЫ КЛОПАТЫ

*З выступлення Еўдакіі ЛОСЬ*

Наша цудоўная Радзіма напярэдадні вялікага свята — 50-годдзя Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Найвялікшая заслуга ў стварэнні шматнацыянальнай сацыялістычнай дзяржавы належыць правадыру партыі і народа У. І. Леніну. Аб гэтым вычарпальна гаворыцца ў пастанове ЦК КПСС. Творча развіваючы ідэі К. Маркса і Ф. Энгельса, Ленін «стварыў стройнае вучэнне па нацыянальным пытанні, распрацаваў навуковыя прынцыпы нацыянальнай палітыкі Камуністычнай партыі...» Ён яскрава паказаў, што «без цеснага саюза савецкіх рэспублік немагчыма забяспечыць няўхільны рост дабрабыту працоўных, усебаковае развіццё і росквіт культуры ўсіх нацый і народнасцей краіны».

Такім чынам, ствараючы першую ў свеце дзяржаву рабочых і сялян, наша партыя надавала ўвагу, побач з іншымі надзённымі задачамі, развіццю і росквіту культур, гэта значыць і літаратур шматнацыянальнай краіны.

З вялікім хваляваннем і ўдзячнасцю мы прыгадваем сёння, што ўжо ў лютым 1924 года ЦК РКП(б), прымаючы пастанову аб чарговых задачах друку, знайшоў неабходным запісаць: «Прыняць меры для стварэння савецкай дзіцячай літаратуры...» Гэты заклік партыі бальшавікоў аб стварэнні літаратуры для дзяцей тычыўся літаратур усіх рэспублік і самым непасрэдным чынам — беларускай.

Е. Лось спыняецца на неверагодна цяжкіх умовах развіцця беларускай літаратуры ў дарэвалюцыйны час, падкрэслівае, што дзіцячай літаратуры ў беларусаў (за выключэннем некалькіх кніжак для чытання) наогул не было.

Наша літаратура для дзяцей нарадзілася ўжо ў савецкі час, і яе найпершай задачай было выхоўваць у маладога пакалення Краіны Саветаў камуністычны светапогляд. За параўнаўча кароткі тэрмін — за 20—40-я гады — яна зрабіла значныя крокі ў сваім развіцці: ад першых дзіцячых песень да цудоўных твораў Янкі Маўра, якія ўвайшлі ў залаты фонд савецкай літаратуры для дзяцей. Калі выйшла, напрыклад, кніжка Якуба Коласа «Міхасёвы прыгоды», вядомы дзіцячы пісьменнік Самуіл Маршак напісаў аўтару: «... Віншую дзяцей, якім патрапіць у рукі кніга, напісаная вялікім майстрам і сапраўдным паэтам. Упэўнены, што і другія паэты Беларусі, ды і ўсяго Савецкага Саюза, паследуюць... прыкладу і ўзбагацяць нашу дзіцячую літаратуру новымі вершамі і песнямі». І сапраўды, дзіцячая літаратура прыцягнула вялікае кола аўтараў. Для дзяцей пісалі Уладзімір Дубоўка і Андрэй Александровіч, Цішка Гартны і Міхась Чарот, Кузьма Чорны і Міхась Лынькоў, Юлій Таўбін і Паўлюк Трус, Хвядос Шынклер і Максім Лужанін, Эдуард Самуйлёнак і Кандрат Крапіва. Цяжка нават пералічыць усіх, хто мае заслугі перад нашай дзіцячай літаратурай. Ужо тады з'явіліся пісьменнікі, якія ўсю сваю творчасць прысвяцілі дзецям і юнацтву — Янка Маўр і Алесь Якімовіч, пазней — В. Вітка, Я. Брыль, В. Вольскі, К. Кірэенка, Э. Агняцвет, В. Хомчанка, А. Пальчэўскі, П. Кавалёў, А. Марціновіч, М. Гамолка, Т. Хадкевіч, І. Навуменка, С. Шушкевіч, А. Вольскі, Я. Бяганская, А. Васілевіч, Ул. Мехаў... Нядаўна выступіў з добрымі кнігамі І. Сяркоў.

Камуністычнае выхаванне, як вядома, прадугледжвае выхаванне людзей, адданых ідэям марксізма-ленінізма, патрыётаў сваёй Радзімы, сапраўдных гуманістаў і інтэрнацыяналістаў. І тут з задавальненнем можна адзначыць, што гутарка ідзе аб літаратуры народа, для якога дабрыня, чалавекалюбства, павага да людзей любой нацыі з'яўляюцца нацыянальнымі рысамі. Але гэтыя добрыя якасці неабходна развіваць у дзецях, асабліва інтэрнацыяналізм.

Выдатны ўзор інтэрнацыянальнага выхавання даў у свой час Янка Маўр, цудоўны пісьменнік і педагог, беларускі Жуль Верн. Ён пісаў аб далёкіх экзатычных краінах і іх насельніках: папуасах, яванцах, кітайцах, жыхарах Цэйлона, Індыі. Але там, дзе буржуазная еўрапейская літаратура бачыла толькі экзотыку, беларускі пісьменнік бачыў іншае. Ён паказваў пакуты тубыльцаў, нараджэнне ў іх душах гнеўнага пратэсту. Раман «Амок», у прыватнасці, малюе гістарычныя падзеі паўстання на востраве Ява ў 1926 годзе. Пісьменнік назваў гэтае паўстанне «першым пачынам», і гэта было сапраўдным прароцтвам — калі мець на ўвазе наступнае развіццё падзей у свеце...

Тубыльцы ў Маўра — не крыважэрныя людаеды. Звычайныя людзі. Пісьменнік стварыў цудоўныя вобразы юнака Манга ў аповесці «Сын вады», хлопчыка Тубі ў апавяданні «Слёзы Тубі», у якім раскрываецца тэма эксплуатацыі дзіцячай працы ў капіталістычных краінах.

Творы Янкі Маўра вытрымалі выпрабаванне часам, служаць нам і сёння.

Паказу барацьбы працоўных Германіі, іх дзяцей з фашызмам у перадваенныя гады прысвяціў сваё апавяданне «Дзіўныя лодкі» А. Якімовіч; жыццё дзяцей у хвалёным амерыканскім «раі» адлюстравана ў кнізе І. Шамякіна «Хлопчык з-за акіяна». Многа год чытаюць нашы дзеці добрую кнігу Ю. Багушэвіча «Пабрацімы» — аб дружбе хлопчыкаў, беларуса і карэйца. Тэме дружбы дзяцей прысвячаюць свае творы В. Хомчанка («Каштаны», «Сустрэча ў акіяне») і У. Шахавец («Ліст сябру»). Гэтыя творы напісаны з веданнем дзіцячай псіхалогіі. Яны павучальныя, бо не проста апавядаюць, як развівалася дружба, але вучаць, як трэба яе развіваць.

Паспяхова працуе ў дзіцячай літаратуры Л. Прокша, якога мы ведалі да нядаўняга часу як публіцыста, гумарыста-сатырыка. Ён выступіў з апавяданнямі аб жыцці дзяцей у капіталістычных краінах, з цікавай аповесцю-казкай «Незвычайныя прыгоды хлопчыка-Бульбінкі», якая насычана грамадскім зместам, вырашае спрадвечнае пытанне барацьбы дабра і зла, актыўна садзейнічае выхаванню падрастаючага пакалення.

Цікавыя ў пазнавальным і выхаваўчым плане асобныя творы П. Ткачова, А. Кобец-Філімонавай, А. Шашкова, В. Вярхоўскага, Г. Васілеўскай.

Выхоўваць пачуццё інтэрнацыяналізму дапамагаюць і кнігі на ленінскую тэматыку, бо яны расказваюць пра жыццё і барацьбу правадыра працоўных усяго свету, які сам быў перакананым інтэрнацыяналістам. Выдавецтва «Беларусь» да ленінскіх дзён падаравала юным чытачам на роднай мове вельмі добрыя кнігі: З. Васкрасенскай — «Раніца», М. Прыляжаевай — «Тры тыдні спакою», С. Аляксеева — «Сакрэтная просьба». Былі перавыдадзены кнігі Н. К. Крупскай «Наш самы лепшы друг», Г. М. Кржыжаноўскага «Шу-шу...». Беларускую дзіцячую Ленініяну папоўнілі творы М. Танка, П. Броўкі, І. Шамякіна, М. Гамолкі, М. Калачынскага, А. Вялюгіна, П. Пестрака, С. Грахоўскага, А. Зарыцкага, А. Грачанікава, Г. Бураўкіна, А. Вярцінскага, М. Аўрамчыка, В. Хомчанкі, Н. Гілевіча і іншых.

Наша беларуская савецкая паэзія заўсёды ўслаўляла дружбу паміж народамі, пачуццё сям'і адзінай. Янка Купала і Якуб Колас стварылі ўзоры песень братэрства. Гэтую эстафету дружбы яны перадалі маладзейшым.

Хрэстаматыйным стаў верш К. Кірэенкі «Караблікі»:

**Напэўна, такая душа ўжо ў нас,**
**мусіць,**
**ад першай маленства вясны**
**мы чуем, што мы не адной**
**Беларусі,**
**а ўсёе радзімы сыны.**

Вершы і паэмы аб Узбекістане, Латвіі, Украіне, Балгарыі напісала Эдзі Агняцвет. Васіль Вітка — казачнік, майстра ўсіх жанраў паэзіі для дзяцей — многа перакладае з моў братніх народаў. Нядаўна, напрыклад, ён пераклаў апавяданні для дзяцей вядомага ўкраінскага педагога В. Сухамлінскага.

Аб сябрах у розных кутках нашай краіны і планеты пішуць беларускія паэты і празаікі. Прыемна, што і наша зямля, наш народ, нашы дзеці натхняюць на стварэнне мастацкіх твораў многіх пісьменнікаў у Маскве і Ленінградзе, у братніх нашых рэспубліках. Успамінаюцца сардэчныя радкі А. Твардоўскага, А. Пракоф'ева, М. Ісакоўскага, М. Святлова, Я. Смелякова, Я. Еўтушэнкі, Я. Вінакурава, кнігі К. Сіманава, С. С. Смірнова, нашых блізкіх суседзяў і братоў украінцаў — У. Сасюры, О. Іваненкі, Б. Чалага... Узбекскі паэт Назармат вызваляў нашу зямлю ад фашыстаў, і вершы, напісаныя ім у дні баёў, хвалююць чытача юнага і дарослага, выхоўваюць пачуцці павагі да народа, які даў літаратуры паэта-інтэрнацыяналіста.

Е. Лось характарызуе літаратурнае жыццё напярэдадні 50-годдзя ўтварэння СССР, паказвае, як шматлікія саюзныя выданні для дзяцей і выдавецтвы ажывілі сваю дзейнасць. У прыватнасці, «Детская литература» выпускае серыю вельмі патрэбных маладому чытачу кніг аб саюзных і аўтаномных рэспубліках — «Ты па краіне ідзеш». Выдавецтва «Беларусь» мае свае паказчыкі. За апошнія гады яно падаравала дзецям не толькі шэраг цікавых кніг нашых пісьменнікаў, але і 37 томікаў перакладных — з розных моў народаў СССР, з польскай, балгарскай, славацкай, нямецкай, італьянскай, французскай, моваў народаў Югаславіі і г. д. Цікавыя планы выдавецтва і на гэты год. У той жа час кнігі беларускіх пісьменнікаў шырока выдаюцца ў братніх рэспубліках. Выпуск дзіцячых кніг у краіне няўхільна расце. У гэтым годзе іх агульны тыраж дасягне амаль 280 мільёнаў экземпляраў.

Але наш час — час вялікіх задач. І галоўны клопат савецкай дзіцячай літаратуры сёння — гэта грамадзянскае, духоўнае фарміраванне дзіцяці, выхаванне ў ім павагі да чалавека любой нацыянальнасці, выхаванне сапраўдных барацьбітоў за камуністычныя ідэі, такіх, як слаўныя нашы рэвалюцыянеры, як ветэраны Камуністычнай партыі, як літаратурныя героі, з вобразамі якіх у сэрцах змагаліся з фашызмам нашы старэйшыя браты...

Перад літаратарамі стаіць сур'ёзная задача ўдасканалення майстэрства, мабілізацыі ўсяго таленту на стварэнне яшчэ лепшых кніжак для дзяцей, бо, як казаў М. Горкі, для іх трэба пісаць лепш, чым для дарослых. Шкада, што на справе атрымліваецца часам наадварот: у аднаго і таго ж пісьменніка кніжка для дарослых добрая, а для дзяцей — слабая.

Е. Лось выказвае шэраг слушных заўваг і прапаноў па далейшым развіцці літаратуры для дзяцей і юнацтва. Трэба больш выдаваць кніг на інтэрнацыянальную тэму. Ясна, што яны павінны быць разнастайнымі, цікава напісанымі, вылучацца глыбокай змястоўнасцю. Нярэдка празаічныя творы для дзяцей апісальныя — ім не хапае творчага аўтарскага пераасэнсавання фактычнага матэрыялу. Але крытыка ўсё яшчэ слаба даследуе літаратуру для дзяцей. Варта хутчэй вырашыць пытанне аб падрыхтоўцы кадраў перакладчыкаў з моваў братніх рэспублік. Пажадана таксама, каб творы, якія выхоўваюць інтэрнацыянальныя пачуцці, занялі большае месца ў школьных праграмах, у кнігах для чытання.

Малым чытачам — вялікую літаратуру! Больш добрых вершаў, апавяданняў, аповесцей і раманаў аб дружбе дзяцей і моладзі нашай шматнацыянальнай краіны, аб дружбе народаў у непарушным Саюзе Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік!

## ЖЫЦЦЁ ПАТРАБУЕ

*З выступлення выкладчыка дзіцячай эксперыментальнай школы г. Тбілісі М. К. КАБАХІДЗЕ*

Мы вельмі рады, што прынялі ўдзел у гэтым карысным і патрэбным форуме пісьменнікаў. Вельмі добра, што кожны год праводзіцца Тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі. Вялікую карысць прыносіць ён і юным чытачам, і пісьменнікам, якія працуюць у гэтай складанай і адказнай галіне.

Нашы дзеці вельмі любяць кнігу. Яны многа чытаюць, і ім ёсць што чытаць. На дзіцячых паліцах кнігарань і бібліятэк — кнігі, якія ўслаўляюць мужнасць, дружбу, любоў да Радзімы, да працы. З гэтых кніг маладое пакаленне бярэ ўсё тое добрае, чым багатае жыццё іх бацькоў. Але неабходна больш такіх кніг — цікавых, павучальных, добра ілюстраваных і афармленых. Дзіцячы пісьменнік адносіцца да ліку тых людзей, якім даверана адказная справа маральнага выхавання юнага пакалення. Да гэтай мэты павінен быць накіраваны кожны твор. Сённяшнім дзецям працягваць вялікую справу бацькоў. І не толькі вялікую справу будаўніцтва камунізма, але і ўсеперамożную дружбу нашых народаў. Адгэтуль і просьба да вас, дзіцячых пісьменнікаў — паболей добрых вершаў, апавяданняў, кніг пра дружбу нашай дзятвы!

## НАДЗЁННАЯ ТЭМА

*З выступлення Жапара АМІРБЕКАВА (Казахстан)*

Я вельмі ўважліва выслухаў выступленне Еўдакіі Лось. І мне падумалася: калі ў будучым годзе вы наведаеце Казахстан, пачуеце такі ж цікавы даклад аб дзіцячай літаратуры, аб інтэрнацыянальным выхаванні і ў нас.

Я ўпэўнены, што гэтая тэма патрабуе глыбокіх даследаванняў у кожнай рэспубліцы, за што, на жаль, не ўсюды бяруцца. Не ведаю, магчыма, у вас ёсць дысертацыі аб дзіцячай савецкай літаратуры, у нас пакуль іх няма. Калі прыеду на радзіму, зайду ў Акадэмію навук і спецыяльна папрашу, каб тэму інтэрнацыянальнага выхавання ў дзіцячай літаратуры ўключылі ў навуковую распрацоўку. Гэта прынясе вялікую карысць.

Правільна тут казалі: дасягненні савецкага народа — гэта плён інтэрнацыянальнай дружбы ў нашай краіне. Сам я з Караганды. Там прайшло маё дзяцінства. Мой бацька да рэвалюцыі працаваў у англічан, дзяцінства маё было змрочнае. Не тое цяпер! З дапамогай братніх народаў мы пабудавалі новы Казахстан.

Многа пісалі пра Караганду, пра нашы цалінныя землі ў друку, але лічу, што асвоеная народамі СССР цаліна пакуль яшчэ не асвоена ў мастацкім сэнсе. Тут ёсць пісьменнікам над чым падумаць, над чым папрацаваць.

Паездка ў Беларусь дала мне вельмі многа карыснага. Я бліжэй пазнаёміўся з гасцінным беларускім народам, з беларускімі дзецьмі. У свой час я напісаў паэму пра беларускую зямлю, пра той гераізм, які праявілі партызаны ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Але мне, вядома, не хапала ведання гэтай рэспублікі. І вось цяпер, калі я вярнуся ў свой Казахстан, я, мабыць, перараблю паэму, зраблю яе лепшай.

Таму я мяркую, што кожнаму з нас трэба болей ездзіць па нашай краіне, часцей бываць у рэспубліках.

Як і ў іншых рэспубліках, інтэрнацыянальнае выхаванне шырока ажыццяўляецца ў нас праз мастацкую кнігу. У нас многа перакладзена кніг рускіх, украінскіх, беларускіх пісьменнікаў. Памятаю, пасля вайны выдалі вялікі зборнік, у якім былі прадстаўлены вершамі Янка Купала, Пятрусь Броўка, украінскія, малдаўскія, узбекскія паэты. Але таго, што намі зроблена ў справе перакладаў, недастаткова. Літаратурныя сувязі народаў павінны пашырацца.

## МАЦАВАЦЬ СУВЯЗІ

*З выступлення Сурэна МУРАДЗЯНА (Арменія)*

Інтэрнацыянальнае выхаванне, на мой погляд, пачынаецца з непасрэднага і разнастайнага знаёмства з жыццём розных народаў. Нярэдка нам здаецца, што мы добра ведаем адзін аднаго. У школе вывучалі гісторыю, геаграфію, літаратуру. Але гэтага недастаткова. Нашы чытачы, бадай, знаходзяцца ў больш цеснай сувязі, чым мы, пісьменнікі. У кожнай армянскай школе можна бачыць сотні пісем са школ Беларусі. Хвалюючыя радкі гэтых пісьмаў могуць служыць сюжэтам для мастацкіх твораў.

У апошні час я працую над паэмай, прысвечанай легендарнаму герою армянскага народа Гаю, які праславіў сябе ў барацьбе за вызваленне Беларусі ад белапалякаў. Адным з галоўных герояў паэмы з'яўляецца беларускі камсамолец Вася. Ствараючы яго вобраз, я неаднаразова ў думках падарожнічаў па вашай краіне. Але народная прымаўка гаворыць: «Лепш адзін раз убачыць, чым сто раз пачуць». І сапраўды, калі я крочыў па вуліцах Мінска, Гродна, знаёміўся з іх цудоўнымі жыхарамі, то мае ўяўленні карэнным чынам мяняліся, узбагачаліся. І сёння я ўпэўнена скажу: такія сустрэчы, як наша, вельмі дапамагаюць мацаваць сяброўскія сувязі.

Мяне непакоіць аднастайнасць дзіцячай паэзіі. Колькі можна паражоўваць усім вядомыя сюжэты пра ляльку і сабачку, карусель і кошку? Ці не лепш перавыдаваць добрыя творы на гэтую тэму, чым псаваць густ дзяцей новымі, недасканалымі? У наш час цяжка быць дзіцячым пісьменнікам. Многія з'явы, аб якіх раней чыталі толькі ў кнігах, сталі быллю. Дзіця атрымлівае веды ў дзіцячым садзе, глядзіць тэлевізар, слухае радыё. Таму нельга весці размову з дзіцём з пазіцыі, што ён многага не разумее. «Няма тэм, якія б нельга было даверыць дзіцяці», — казаў Макаранка. Дзіцячая кніга — гэта акно, праз якое дзіця бачыць знешні свет, пазнае жыццё, збліжаецца з любімымі героямі.

Нядаўна мы з дачкой-трэцякласніцай глядзелі па тэлевізары фільм «Гамлет». Нечакана дзяўчынка спытала мяне: «Чаму Гамлет — разумны і багаты — пакутуе, а бедны магільшчык — вясёлы і задаволены?..».

Мне здаецца, гэтае простае дзіцячае пытанне можа стаць асновай для цэлага даследавання. Ці заўсёды мы ўлічваем дзіцячы інтэлект, ствараючы свае творы? Наўрад...

Для выхавання дзяцей важным сродкам з'яўляецца сатыра і гумар. Дзіцячыя творы — акно, праз якое дзіця бачыць навакольны свет, людзей. А дасціпнае слова, захапляючае і вясёлае, сатыра і гумар — свежае паветра, якое праз гэтае акно пранікае ў душу дзіцяці, з'яўляецца, на маю думку, вельмі важным сродкам выхавання.

## ЯКІМІ БЫЦЬ НАШЫМ ДЗЕЦЯМ?

*З выступлення Майджуды ХАКІМАВАЙ (Таджыкістан)*

Сёння мы вядзём вялікую размову аб інтэрнацыянальным выхаванні нашых дзяцей, таму што кожнага з нас непакоіць, якімі яны вырастуць, якімі будуць людзьмі. Мы адказваем за іх лёс. У першы дзень, калі мы прыехалі ў Мінск, мы выступалі ў Палацы культуры трактарнага завода. Сваё выступленне перад дзецьмі я пачала з пытання, ці добра юныя слухачы ведаюць геаграфію, дзе знаходзіцца Таджыкістан, якія там рэкі, горы, вядомыя будоўлі? І мне было прыемна, што яны адказалі на ўсе гэтыя пытанні. Але ім дапамагла не толькі геаграфія. Ім дапамаглі нашы мастацкія кнігі, якія аказваюць вялікае эмацыянальнае ўздзеянне, дапамагаюць дзецям розных рэспублік быць бліжэй адзін да аднаго.

Пажадана, каб творы ўдзельнікаў гэтага Тыдня дзіцячай і юнацкай кнігі былі выдадзены адным зборнікам у Маскве, сталі здабыткам пісьменнікаў усіх рэспублік.

## НЕКАЛЬКІ ДУМАК АБ ВЫХАВАННІ

*З выступлення прафесара Арчыла ЧАЧЫБАЯ (Грузія)*

Пастаўленая на гэтым вялікім сімпозіуме праблема інтэрнацыянальнага выхавання ў дзіцячай літаратуры з'яўляецца фактам вельмі вялікага значэння. Узнікае неабходнасць намеціць канкрэтныя шляхі і сродкі для эфектыўнасці працэсаў узаемнага ўзбагачэння і збліжэння дзіцячых літаратур.

Асновай духоўнага багацця моладзі XX стагоддзя з'яўляюцца ў першую чаргу бессмяротныя ідэі ленінізма, савецкага гуманізму і сацыялістычнага інтэрнацыяналізму. Наша сучаснасць дакладна вызначыла ролю савецкага пісьменніка ў галіне выхавання вышэйшага пачуцця патрыятызму, аб чым красамоўна сказаў з трыбуны Усесаюзнага з'езда пісьменнікаў СССР Канстанцін Сіманаў: «Калі мы ў поўны голас гаворым аб сваіх нацыянальных пачуццях, аб сіле сваёй любві да ўласнай краіны, мы помнім пры гэтым, як важна, каб твая любоў да тваёй Радзімы ніколі і нічым не зневажала ніякую іншую нацыю, нічыю другую радзіму! У гэтым ёсць тое галоўнае, што адрознівае сапраўднага інтэрнацыяналіста ад уяўнага. Галоўнае, што здымае ўсякую супярэчлівасць паміж пачуццём нацыянальнай гордасці і пачуццём інтэрнацыяналізму».

Задачы выхавання моладзі ў духу ідэй сацыялістычнага інтэрнацыяналізму патрабуюць ад дзіцячай і юнацкай літаратуры прытрымлівацца «гарызонта» сучаснасці: прасторавы кругагляд пісьменніка, яго «бачанне» павінны выйсці за межы геаграфічных абмежаванняў, у першую чаргу неабходна ў значна большых маштабах ствараць ва ўсіх жанрах новыя творы дзіцячай літаратуры на тэмы грандыёзнага будаўніцтва камунізма, дзе па-брацку згуртаваныя калектывы розных нацыянальнасцей вядуць гераічнае працоўнае жыццё і духоўны свет іх з'яўляецца крыніцай для фарміравання ў моладзі высакародных пачуццяў інтэрнацыяналізму, дружбы народаў.

Трэба і надалей умацоўваць кантакты паміж таленавітымі прадстаўнікамі дзіцячай літаратуры і мастацтва братніх рэспублік. Мы таксама лічым мэтазгодным заснаванне друкаванага органа дзіцячай літаратуры, у якім бы сістэматычна публікаваліся найлепшыя паэтычныя, празаічныя і драматычныя творы пісьменнікаў савецкіх рэспублік, а таксама краін сацыялізма. Будзем спадзявацца, што гэтая прапанова знойдзе адпаведную падтрымку і водгук.

Было б мэтазгодна для ўмацавання сяброўскіх кантактаў перыядычна праводзіць у братніх рэспубліках дэкады дзіцячай і юнацкай літаратуры.

Мы ўпэўнены, што скліканы ў сталіцы гераічнага беларускага народа сімпозіум па праблемах дзіцячай і юнацкай літаратуры — яшчэ адна яркая старонка ў гісторыі развіцця шматнацыянальнай савецкай літаратуры.

## ЗА НАЦЫЯНАЛЬНУЮ СВОЕАСАБЛІВАСЦЬ

*З выступлення Эсфір ГУРЭВІЧ*

Паведамленне Еўдакіі Лось насычана багатым фактычным матэрыялам. Яно красамоўна паказала, якая багатая гісторыя беларускай дзіцячай літаратуры, а таксама тое, што інтэрнацыяналізм з'яўляецца ўнутранай якасцю дзіцячай літаратуры, як і ўсёй савецкай літаратуры наогул.

Я хачу падкрэсліць думку, якая прагучала на сімпозіуме, што сама па сабе інтэрнацыянальная тэма, калі яна вырашаецца дэкларатыўна, не здольна выклікаць эмоцыі, не здольна эстэтычна ўздзейнічаць на чытача. З другога боку, часта творы, якія не маюць, здавалася б, адкрытага інтэрнацыянальнага аспекту, у высокай ступені выяўляюць дух інтэрнацыяналізму. Справа ў тым, што калі ствараецца вобраз нацыянальнай напоўненасці, у ім адлюстроўваюцца агульначалавечыя рысы.

У апошні час у беларускай дзіцячай літаратуры ўсё больш з'яўляецца герояў, вырашчаных на нацыянальнай глебе, ва ўмовах народнага жыцця. Гэта героі кніг Алеся Якімовіча, Алены Васілевіч, гэта дзятва з аповесці Івана Сяркова, Марат Казей з апавяданняў С. Шушкевіча. Дзякуючы блізкасці да народных традыцый, найбольш ярка нясе на сабе адзнаку нацыянальнай самабытнасці такі літаратурны жанр, як казка. Аднак у многіх кнігах беларускіх пісьменнікаў героі пазбаўлены нацыянальнай своеасаблівасці, іх без цяжкасці можна перанесці на любую глебу. Такая адсутнасць нацыянальнай своеасаблівасці, каларыту, як недахоп, неаднаразова адзначалася беларускай крытыкай. Карацей кажучы, хачу падкрэсліць, што шлях выхавання інтэрнацыяналізму ў літаратурных творах ляжыць праз стварэнне высокамастацкіх нацыянальных вобразаў.

## УВАГУ ПЕРАКЛАДАМ

*З выступлення Аркадзя МАРЦІНОВІЧА*

Нашай беларускай літаратуры ніколі не была ўласціва нацыянальная абмежаванасць і тым больш прапаганда нейкай выключнасці. Кніга павінна будзіць думку нашага дзіцяці, вучыць яго любіць свой родны край, гісторыю сваёй рэспублікі і праз гэтую любоў паказваць нашым юным грамадзянам усю краіну і ўвесь свет.

Настаў час наладзіць больш інтэнсіўны, шырокі абмен лепшымі творамі нашых нацыянальных літаратур. У першую чаргу тут маюць значэнне пераклады добрых кніг на розныя мовы народаў краіны. Робіцца нямала ў гэтым кірунку. Але кожны з нас лічыць, што трэба перакладаць лепшыя мастацкія творы пісьменнікаў іншых рэспублік значна больш. Нас абмяжоўваюць выдавецкія рамкі. Трэба ўнесці такую прапанову, каб у кожнай рэспубліцы, дзе праводзіцца чарговы Тыдзень дзіцячай і юнацкай літаратуры, ствараўся рэзерв, скажам, 200 друкаваных аркушаў паперы для лепшых твораў прадстаўнікоў братніх дзіцячых літаратур. Сёння нам было б куды больш прыемна, калі б кожны меў кнігу перакладаў твораў удзельнікаў Тыдня.

## БЛІЖЭЙ ДА ЖЫЦЦЯ

*З выступлення Хведара ЖЫЧКІ*

Усе мы надаём вялікае значэнне інтэрнацыянальнаму выхаванню дзяцей. Для любой школы — гарадской, сельскай — у нашай рэспубліцы характэрны традыцыйныя сяброўскія сувязі з дзецьмі іншых рэспублік, сацыялістычных краін. Яны перапісваюцца, абменьваюцца падарункамі, кнігамі і г. д. Гэтая тэма асветлена ў нашай літаратуры няблага. Ёсць творы ўдалыя, ёсць менш удалыя. Але цяпер пісьменніку трэба больш глыбока ўзнімаць і бытавыя тэмы.

Мне даводзілася бываць у Светлагорску,—горадзе хіміі. Тут жывуць прадстаўнікі многіх нацыянальнасцей, бо з'ехаліся будаўнікі з розных рэспублік. Калі заходзіш у школу, то ў класе звычайна бачыш прадстаўнікоў сямі—васьмі нацыянальнасцей. Безумоўна, для настаўніка праблема гэта вельмі вялікая. Я намерваўся напісаць твор аб гэтым, але нешта мне перашкаджала ажыццявіць задуманае. І я разумею што. Для таго, каб напісаць добры мастацкі твор, мала толькі знешне паказаць дзяцей, назваць таджыка, казаха. Трэба ведаць асаблівасці кожнай нацыянальнасці. І тут я магу з упэўненасцю сказаць, што ў нас агульны недахоп — мы недастаткова бываем у братніх рэспубліках, знаёмы адны з адным толькі па перакладах. А вось калі б мы часцей наведвалі розныя рэспублікі, вывучалі нацыянальныя асаблівасці народаў, тады б мы маглі ўзняць у дзіцячай літаратуры шэраг цікавых і патрэбных тэм.

●

У спрэчках прынялі ўдзел таксама Павел Катаеў (Масква), настаўніца школы № 64 г. Мінска Л. Ф. Марынец, Раіса Лунгу (Малдавія), Імант Ласманіс (Латвія) і іншыя.

Затым старшыня сімпозіума Васіль Вітка падвёў вынікі цікавай і карыснай гаворкі, падзякаваў прысутным за сур'ёзнае, дзелавое абмеркаванне пытанняў, якія ўзніклі ў ходзе гутаркі, пажадаў новых поспехаў пісьменнікам братніх рэспублік у стварэнні высокамастацкіх твораў для дзяцей і юнацтва. У заключэнне з цёплым словам ад імя ўсіх гасцей выступіла Маўджуда Хакімава. Яна падзякавала арганізатарам Усесаюзнага тыдня дзіцячай і юнацкай літаратуры ў Беларусі.

Віктар ЯРАЦ

## ЦВІЦЕ МІНДАЛЬ

Каторы год —
нікто не знае —
зацвіў у Грузіі міндаль...
Ружова-белай стала даль,
нібыта выпаў снег над краем.
А свет — задумлівы і строгі,
а свет — не міндалёвы цвет,
і ў ім даўно жывуць трывогі,
і разыходзяцца дарогі
людскіх і радасцей, і бед.

## ГРУЗІЯ

Не разгайданай штормам
шырынёй,
а майскімі праменнямі
сагрэтае,
мяне сустрэла мора цішынёй,
апетае вятрамі і паэтамі.

Лагоднае, не спала, а маўчала,
загадкі захаваўшы ў глыбіні,
Нібы калыскі, лёгка калыхала
асветленыя небам караблі.

Яно плыло, шліфуючы
каменьчык,
яно жыло, не лічачы хвілін,
жыццём крыніц і незнаёмых
рэчак,
і тысяч безназоўных ручаін.

Яно было і продкам,
і нашчадкам,
напоўненае сілаю зямной,
яно было працягам і пачаткам,
і ўсё-такі было—самім сабой.

Галіна
КАРЖАНЕЎСКАЯ

## ЖАНЧЫНЕ

Ні змена бед, ні ўлада год
Цябе сагнуць не мелі сілы.
У сабе усіх мужчын насіла,
А нараджала для чаго?
Для барацьбы і перамог?
Для долі слаўнае якое?
Дарма ўглядалася ў ікону —
Не абяцаў збавення бог.
Спазналі смак жаночых слёз
Маленства босае і сталасць,
І быў да болю аднастайны
Сынам прадвызначаны лёс:
У зямлі спагадлівую плоць
Зярняты кідаць
ці ад хаты
Нясці у горад, фабрыкантам,
І мазалі, і маладосць.
Табе маёй павагі верш
І роздум мой. Сцвярджаць
пасмею
Што рэвалюцыі ідэя
У мацярок саспела перш...

●

Яшчэ прадбачана нямнога.
Яшчэ з-пад роздуму сівога
Узыходзяць парасткі страсцей.
Яшчэ юнацтва у вачах
Цвіце, і стома не гняце.
Істота адмаўляе страх
Перад нявызначаным лёсам,
Перад спакоем безгалосым,
Перад усім, што не прыйшло,
Што змрок на погляд пакладзе,
Што ўпіша зморшчынку
ў чало...
Ва мне жыве наступны дзень—
Нядоўгачасны і бязмежны.
Ён ад мяне адной залежыць.
Ва мне жыве наступны дзень!

●

Нішто не выпадкова —
Ні ростань, ні сустрэча,
Ні шчырая размова...
Не замінала словам
Адушаўлёнасць рэчаў:
Тых сцен, што слухаць рады,
Акон, што бачаць многа,
Адросткаў на паўхаты
(Магутны быў сахаты!)
Карычневага рога.
Пакутліва, паволі
Я веру здабывала
У нас, у нашу долю.
Упалі промні долу,
Як напамінак: мала
Дае нам часу вечар.
Цень развітання ў хаце.
Самотней твар хлапечы,
І ўсе адразу рэчы
Адушаўлёнасць трацяць...

●

Дарога — як выратаванне.
За кіламетрам кіламетр,
І з кожнай хвіляй больш
прыкмет
Маёй свабоды. Толькі здані
Нядаўніх схільнасцей і звычак
Бягуць за мною наўздагон,
Здзіўляюць коратка, як сон
Незразумела маляўнічы.
Дарожны вецер чыста выцер,
Што ў сэрца ўпісана тугой.
Для шчасця досыць аднаго:
Я напярэдадні адкрыццяў!
І новы край мяне запоўніў,
Абшар нябачаны працяў.
І столькі сэнсу у жыцця,
Нібы яго пачатак сёння.

●

Я думала:
шчасце — знаходка.
Я думала:
шчасце — выпадак.
Я думала: шчасце знянацку
Сабе выбірае шчасліўчыка...
Ажно памылялася!
Шчасце
Гадамі ва мне выспявала,
Злівалася з кропель усмешак,
Чысцела ў пакутах. Чысцее
Вось гэтак вада ў крыніцы,
Прайшоўшы зямлю наскрозь...


В. Ярац.


Г. Каржанеўская.


В. Мурашкін.


У. Някляеў.


Л. Аноп.


І. Лашутка.

Віктар МУРАШКІН

## ЧАРАДА

I.

Яшчэ нямнога колераў,
адценняў
Між небам
і зялёнаю зямлёй...
Хоць сакавік і лічыцца
вясеннім,
Я нарадзіўся позняю зімой.
Як млечным шляхам
санны след азначаны,
Бальшак шырокі
праз жыццё вядзе...
З даверліваю прагаю юначай
Я за цяплом
цягнуўся да людзей.

II.

Перад вясноваю карцінай,
Жыцця спыніўшы ясны міг,
Зачараваны і наіўны,
У адкрыцці сваім
зацiх
І незвычайнага чакаеш...
Чаго? —
не ведаеш і сам.
Пакорліва ў вясну ўступаеш,
Як прашчур твой —
у боскі храм.

III.

Ліпень.
Ліпне ліповае лісце.
На пражытым —
развагі пячаць.
Так і хочацца, любая,
выйсці
Незабыўныя дні пашукаць.
Лета тонкія ўзоры вяжа,
Лёгка тчэцца туману канва...
Спелы колас задумаўся:
цяжка! —
Час жніва.

IV.

Цяпер — бывай!
І больш надзей няма.
Зялёны выган здраталі коні.
А восень, дзіўная,
згарэла задарма
У полымі рабін тугіх
сягоння.
Ах, восень, восень!
Я твой верны сын,
Ніяк не мог табой
налюбавацца...
Каб мог згарэць у полымі
рабін,
Пасля штогод нанова
нараджацца!

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

## СПОВЕДЗЬ

Не мець
Ні багацця, ні славы,
Ні нават бяссмерця...
Мець толькі высокае права
Быць зернем у коласе,
Крышталем у солі,
Кропляю у крыві
Радзімы маёй —
Беларусі.

## У САМАЛЁЦЕ

Адчую сутаргу, што павяла
крыло
Над родным возерам
у пералётнай птушкі,
У бестурботнай птушкі-
весялушкі,
Якую ў дальні вырай павяло.

І здасца, што ад дзедавай
страхі
Шугае самалёт,
І ўзорваюць не крылы, а плугі
У небе воблакі тугія.

Леанід АНОП

●

Яшчэ смалою пахнуць
сцены,
У вокнах незашклёных вецер,
І сад не кліча кволым веццем,
І двор пусты,
Нібыта сцэна.
Яшчэ па вымытай падлозе
Нага і кроку не ступала,
А хата,
Хата сустракала
Лістком зялёным
На парозе.
А за сцяной —
Адразу поле,
З раллі там
Цягне рукі жыта.
А за сцяною —
Ельнік сонны.
У хаце рэчы шчэ не ўсе.
А мама:
— Справім пакрысе...
Тут мама гаспадыня сёння!
Пячэцца хлеб — а як жа,
свята! —
Касы абломак
Бацька выняў
І на падмурку новым вывеў
Год нараджэння нашай хаты.

●

Каго вініць у тым,
што новы
Пражыты дзень не так,
як трэба...
Пустыя справы,
рухі,
словы,
...і луста з'едзенага хлеба.

Іван ЛАШУТКА

●

Я часта думаю,
Адкуль такая сіла
Мяне зраднілá з гэтаю зямлёй,
Яе красой трывожнай паланіла,
У сэрцы захавала непакой?

Настане час і сэрца перастане
Лічыць імгненні радасці
зямной,
Я ўсё пакіну тут без наракання,
Сыпніце жыта жменьку ўслед
за мной.

●

Цічым летам рэха адгукнецца,
Прадчуваннем ранняе смугі.
Наракі трывогу ў нашы сэрцы
Лістапада жоўтыя лугі.
І калі над белаю раўнінай
Восень памахае мне крылом —
Не цябе, а песню жураўліную
Правяду далёка за сяло...

●

Адзінока бацьку, адзінока.
Дождж імжыць асенні
на дварэ.
Сын жыве у горадзе далёка —
Глухне дом без часу, без пары.

Цяжкіх дум балючая трывога
Будзіць сны старога уначы:
Дзе ж прагледзеў сына
дарагога
І не змог для дому зберагчы?

Можа, летам — спаленым,
галодным,
Калі з рук валілася каса,
Пад блакітам бацькаўшчыны
роднай
Зблякла нівы мілая краса?

Чула сэрца бацькі і хацела
У знямозе сына падтрымаць...
Не сумеў... І ў хаце апусцелай
Аднаму чакаць і сумаваць.

Зноў вятры сцюдзёныя
падзьмулі.
Зжоўклым лісцем студню
прымяло.
Хоць бы ўнук Міхаська
да дзядулі
Не забыў сцяжынку у сяло.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

## Вясна...

Мал. М. ЧАРНЯЎСКАГА.



Пацяплела...



— Страліш у яго —атрымаеш шакаладку...



Ул. БАГДАНОВІЧ

## ФІНАНСАВЫ БУМ

За тры дні да палучкі завітаў Дрынкін.

— Слухай, Андрэйчык, — шапнуў ён, — чуў навіну?

— Не, — адказаў я,—а што?

— У нашага шэфа заўтра дзень нараджэння. Гані трояк на падарунак.

Трояк быў апошні, і Дрынкін у момант змікіціў гэта.

— Мы спіс састаўляем.

— Які спіс?

— Тых, хто дае...

Дрэнь справа, адзначыў я. Спіс абавязкова падсунуць дырэктару, і калі я зацісну трояк, то...

— Спіс — гэта добра, — бадзёра зазначыў я. — Калі ласка, вазьмі трояк і зарэгіструй і мяне.

— Спі спакойна, — адказаў Дрынкін і знік.

Раніцой я падпільнаваў дырэктара ў калідоры.

— З днём нараджэння, Павел Сымонавіч,—цёплым голасам павіншаваў я шэфа.

— Чым жартаваць, Андрэйчык, вы б лепш на рабочае месца спяшаліся. Пяць мінут дзесятага, а ён, разумееце, шлындае па калідоры...

І дырэктар патупаў у кабінет. Я адзначыў кемлівасць Дрынкіна і адчыніў дзверы аддзела рэалізацыі.

— Слухай, — шапнуў я Брошкіну, — чуў навіну?

— Чуў, — шырока ўсміхнуўся Брошкін. — Я ёю з Дрынкіным учора падзяліўся.

— !

Генадзь ДЗМІТРЫЕЎ

## АХВЯРА САМААДУКАЦЫІ

— Слухай, Уладак! — сказала мне аднойчы жонка, прыйшоўшы з гасціны,— заняўся б ты самаадукацыяй ці што? На людзях з табою брыдка. Слова з цябе путнага не выціснеш у кампаніі, адно мычыш, як цяля без маткі...

Яно, канечне, верхняй адукацыі я не маю, але і мычу зусім не таму, што слоў бракуе. Словы ёсць, ды пасля трох-чатырох кілішкаў яны ніяк не вылазяць з рота: язык перашкаджае. Самаадукацыя — гэта добра. Але ж узрост ужо не той і да навукі ніякай цягі няма. Хоць добра ведаю, што жонка, як тая стрэмка ў пазногцях, будзе ныць і тузаць, пакуль на сваім не паставіць. Мусіў скарыцца. Думаў я, думаў, як адукавацца хутка і каб увогуле. А дапамог выпадак.

Вечарам паставіла мая Антоля на нейкі часопіс патэльню з яешняй. Бачу: на старонцы выпісана — «Красворд». Красворд! Вось дзе цаліна для майго дапытлівага розуму! Нездарма кажуць, што геніяльныя думкі прыходзяць у час яды...

З гэтага ўсё і ўсчалося.

На рабоце чамусьці сталі пільна ўглядацца ў мой твар і спачувальна ківаць галовамі.

«Хай ківаюць,— думаю. — Абмежаваныя людзі, што з іх возьмеш?»

Пасля работы, раскашаваўшыся ў крэсле, я разгадваў красворды, грыз аловак так, што пасля есці не хацелася.

Нарэшце, нават на рабоце, замест таго, каб прывітацца з дырэктарам, запытаўся:

— Скажыце, калі ласка, як называецца адным словам спешная праца, выкліканая кепскім планаваннем? На пяць літар...

Дырэктар чамусьці вельмі абурыўся. Прыйшлося напісаць заяву — па ўласным жаданні...

А ўчора... Не, вы сабе толькі ўявіце. Заходжу я ў сталоўку. У руцэ, як і належыць чалавеку адукаванаму, часопіс з вялізным красвордам. Стаў у чаргу. Прасоўваюся і разгадваю, разгадваю і прасоўваюся. У адным месцы заела: ніяк не магу ўспомніць назву рамана Дастаеўскага на пяць літар. І нагадаў якраз у той момант, калі падышла мая чарга.

— «Ідыёт»!— з радасцю крыкнуў я на ўсю сталоўку.

Раздатчык, відаць, не меў часу разбірацца ў маіх пачуццях, бо тут жа ў адказ прашыпеў:

— Сам асёл!

— Гэта хто, я асёл? Не, вы паглядзіце, таварышы: я — асёл? Гідра ты марская, астэроід ты няшчасны, мастадонт, сталактыт, брандахлыст!..

За нейкія паўхвіліны я выклаў перад аслупянелым раздатчыкам амаль увесь запас ведаў, набыты за цэлы месяц самаадукацыі пры дапамозе красвордаў. У руках раздатчыка бліснуў магутны чарпак...

Цяпер я — у міліцыі: дзесяць сутак за дробнае хуліганства. Тут няблага: кормяць і пояць. Адно бяда — красвордаў не даюць.

Станіслаў ЕЖЫ ЛЕЦ

## НЕПРЫЧАСАНЫЯ ДУМКІ

«Я паэт заўтрашняга дня!» — заявіў ён. «Пагаворым пра гэта паслязаўтра»,—адказаў я.

⊙

Можна апынуцца на дне, не дасягнуўшы глыбіні.

⊙

Адсутнасць таленту падмяняў адсутнасцю характару.

⊙

Ёсць п'есы настолькі слабыя, што не могуць сысці са сцэны.

⊙

З рэцэнзіі: «Паэта характарызавала высакароднае ўбоства думкі».

⊙

Разбураючы помнікі, захоўвайце пастаменты. Заўсёды могуць прыдацца.

⊙

Карыстайцеся вопытам арнітолагаў. Для таго, каб пісьменнікі маглі разгарнуць крылы, яны павінны мець свабоду карыстання пёрамі.

⊙

Першай умовай бессмяротнасці з'яўляецца смерць.

⊙

Калі ты без хрыбетніка, не лезь са скуры!

⊙

Нават на троне праціраюцца штаны.

⊙

«Я толькі паківаю пальцам», — сказаў ён, кладучы яго на курок.

⊙

Прыгожая хлусня? Увага — гэта ўжо творчасць.

⊙

У пекле д'ябал — персанаж станоўчы.

## РЭДАКТАРЫ СКАРДЗЯЦЦА...

*На імя Аўдзея Самасея прыйшло пісьмо з выдавецтва «Навука і тэхніка». Рэдактары скардзяцца, што не могуць выконваць сваёй асноўнай работы — сканцэнтравацца як след над рукапісам замінае смех. Аўдзей Самасей, шчыра цікавячыся кожным новым укладам у гумарыстычную літаратуру, спяшаецца данесці зерне смеху да шырокага чытача.*

Нагрузка свінняў на пашу ў першых пяці гаспадарках складае 50—55 галоў, а ў калгасе імя Калініна галоў дасягае 88.

□

Падыходзячы да ацэнкі асобных культур як асновы нормавытворчасці змяняецца ўяўленне аб іх эфектыўнасці.

□

Што датычыцца функцыі працягвання роду, то яна сярод рабочых была даволі высокай.

□

У пытанні колькаснага складу ўзнаўленчага патомства шмат у чым панавала анархія.

□

Малая індывідуальная сям'я складалася ў пераважнасці з бацькоў і дзяцей.

□

Зыходзячы з прыгарадна-геаграфічных умоў і наяўнасці матэрыяльных магчымасцяў на тэрыторыі Беларусі панавалі розныя тыпы двароў.

□

Людзям тады ў зачыненых дварах магчыма было надзейна хавацца самім, а таксама і хатнім жывёлам.

□

Для гарадскіх жыхароў налічвалася каля 15—18 і болей відаў праведзення часу. Духоўнае іх жыццё адрозніваецца шматфункцыянальнасцю. Свабоднае праведзенне часу гараджан характарызуецца масавасцю кантактаў, з вялікім выбарам субяседнікаў.

(З рукапісаў, якія паступілі ў выдавецтва).

Станіслаў ШУШКЕВІЧ

## ПАЭТ НА БЯРОЗЕ

Змакрэлы красавіцкі
лес,
Я на бярэзіну ўзлез.
Мая равесніца ў імжы
Вясновым холадам
дрыжыць.

Рыгор СЕМАШКЕВІЧ.
«Прысніўся сон».

Ён мігам соку выпіў дозу,
Вавёркай скокнуў на бярозу.
Бяроза гнецца і дрыжыць...
Паэт прыродай прагне жыць!

Рыгор ЯЎСЕЕЎ

## ФЕДЗЯ—ЕДЗЕ...

Федзя едзе, едзе, едзе
Ранкам.
Едзе, едзе, едзе Федзя:
— Шклянку!
Федзя едзе, едзе, едзе:
— Ой, ты...
Едзе, едзе, едзе Федзя:
— Стой ты!
Федзя едзе, едзе, едзе...
— Ку-ды!!
Едзе, едзе, едзе, Федзя —
Кулдык...
Ён з кабіны выпаўз ледзьве:
— Ох! Ох!
Больш не п'е гарэлку Федзя,
Дальбог.



Мал. Л. ВЯЗНІКАВА.

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.





Індэкс 63856 АТ 01671